I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове КРАСАВІК 2012
Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну

## Гомель, "Сяльмаш", пачатак 70-х.



Стар. 3

Якія ўражанні пакідаюць тутэйшыя мясціны ў гасцей з суседняй Расіі?
стар. 2

У нумары -

ГумНо СПАРТЫЎНАЕ
стар. 8



# Гомель вачыма Валгаградскіх студэнтак

***Якія уражанні пакідаюць тутэйшыя мясціны ў гасцей з суседняй Расіі?***

Дзьве студэнткі Валгаградскага дзяржаўнага універа Наста і Кася вырашылі пабачыць Беларусь сваімі вачыма. Яшчэ пару дзён таму яны пабывалі ў стольным градзе Менску, у Несвіжы, мы ж сустрэліся з імі у Гомелі:

- Дзяўчаткі, што вас прывяло сюды?

-Любоў да вандровак і цікаўнасць да Беларусі. Яшчэ ў Маскве я распрацоўвала праект тычны сітуацыі, у тым ліку і палітычнай сітуацыі, у Беларусі. Вось вырашыла пабачыць усё на свае вочы, – кажа Наста-студэнтка, журналістка і проста прыгажуня.

-І як ўражанні?

- Кінулася ў вочы адначасовае спалучэнне савецкасці і еўрапейскага стылю .

- А яшчэ ў Менску людзі больш ветлівыя. У параўнанні з той жа Масквой – дадае Кася

Трэба зазначыць, што ў Гомелі дзяўчаткі не толькі пабачылі архітэктуру, пачулі мноства тутэйшых легендаў і гісторый, але і сутыкнуліся з беларускамоўнай супольнасцю. Па волі лёсу яны патрапілі на сустрэчу маладых адраджэнцаў беларускага слова.

- Мне па праўдзе было цікава пабываць на вашым сходзе. Гэта вельмі добра, што вы імкнецеся захаваць сваю культуру, мову, – кажа Наста.

-Ці не выклікала ў вас шок беларуская мова?

-Не-не, наадварот. Практычна шмат словаў падобныя на рускія. А самае цікавае было сустракаць у вашай гаворцы словы лацінскага паходжання – тут мне дапамагала веданне ангельскай мовы.

А што найбольш запомнілася у Гомелі?

- Парк прыгожы…Спадабалася легенда пра першага Гамяльчаніна, які пабачыў мель. Яна смешная і абсурдная.


КАЛІ Я ВЯРТАЮСЯ З РАСІІ, Я ЗАЎСЁДЫ ВЕДАЮ ДЗЕ ПАЧЫНАЕЦЦА БЕЛАРУСЬ

- Дзяўчаткі, але ці добра што абсурдныя рэчы папулярызуюцца ў першую чаргу?

Кася:

-Не, канешне гэта не правільна. Лепш было б, каб яна існавала так бы мовіць для забавы, у дадатак да праўдзівых гістарычных фактаў.

Наста:

- А яшчэ пасля Менску нам Гомель падаўся выключна суцішаным. Такая надзвычайная цішыня наўкол. Мы гулялі па парку і нам падавалася, што тут людзі шэптам размаўляюць. Не было чутно, пра што кажуць на суседняй скамейцы. Мы яшчэ падумалі: “Нічога сабе, як ціха!” Прыслухаліся: не. не шэптам (смяюцца)

- Што можаце сказаць пра драўляную архітэктуру гістарычнага цэнтра Гомеля?

- Цікава было слухаць менавіта вашыя каментары. Бо у нас драўляных хат багата ў прыватным сектары. Каншне, даваеннай забудовы нама – яна захавалася бадай толькі ў Цэнтральнай Расіі. Але вашая экскурсія была надзвычай цікавай. Яна навучыла нас бачыць тое, чаго мы не заўважалі раней

Ці трэба захоўваць такую архітэктуру ў горадзе?

(дзяўчаткі ківаюць у знак згоды)

Якую б параду вы маглі даць гамяльчукам на будучыню?

- Развівайце турызм. У вас ёсць на што паглядзець, калі гэта добра падаць. Трэба абавязкова распрацоўваць новыя, альтэрнатыўныя экскурсійныя маршруты (у Расіі пад падобныя праекты вылучауцца грошы з дзяржаўнай казны). Варта піярыць гэта ў нэце. На беларускіх турыстычных сайтах інфармацыя падаецца шаблонна, суха і банальна. Трэба выкарыстоўваць сучасныя падыходы, каб гэта вабіла моладзь, каб пакідала нейкія уражанні.

*http://kli4nik.info/*




# Гомель, "Сяльмаш", пачатак 70-х.

***Савецкі Саюз развалілі звычайныя бытавыя магнітафоны. Тысячы кіламетраў намагнічанай стужкі с запісамі "Beatles", "Rolling Stones" ды іншых "Led Zeppelin" задушылі камуністычную ідэалогію, рыхтык прасунутыя спрут – тупарылага іхтыязаўра з папярэдняй геалагічнай эпохі. Праўда, тагачасныя ідэалагічныя іхтыязаўры таксама не спалі ў шапку, а як маглі, адкусвалі атрутныя шкодніцкія шчупальцы.***




Напрыканцы шасцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя бітламанія сягнула гістарычнага апагею. Колькасць падпольных рок-груп, якія "здымалі" бітлоў, перавысіла колькасць ударнікаў сацыялістычнага спаборніцтва. Мода на пінжакі са зрэзанымі каўнерамі і штрыфелямі даводзіла да істэрыкі ветэранаў партыі, больш звыклых да гімнасцёрак і будзёнавак. У кожнай дваравой альтанцы сядзеў як мінімум адзін гітарыст-валасацік, які з інтанацыямі сакавіцкага ката выводзіў на жахлівай ангельскай: "Естэдэй! Ал май траўблес сімід со фор эвэй!"

Такі стан рэчаў вымагаў неадкладнага ідэалагічнага адлупу. Аддзелы прапаганды і агітацыі "на месцах" атрымалі суворыя дырэктывы: "узмацніць палітыка-выхаваўчую працу", "прапрацаваць падведамасны кантынгент персанальна" і "персанафікаваць адказнасць настаўнікаў".

**Працяг на стар. 4**

# Былая міліцыянер прыдумала брэнд Беларусі — «бульбаёсціка»

***Першая партыя ўнікальных цацак-сувеніраў выпушчана на прыватным унітарным прадпрыемстве «Вясёлка» ТАА «Актамір» у Гомелі.***

Як паведаміў дырэктар прадпрыемства Міхаіл Коршак, на вытворчасці спадзяюцца, што гэта цацка здольна стаць нацыянальным брэндам. Тут плануюць распрацаваць цэлую бульбяную сямейку — бабулю, дзядулю, бацькоў хлопчыка-бульбаёсціка. У якасці абгорткі, напэўна, будзе выкарыстоўвацца мешкавіна: якая ж бульбачка без мяшка?

Ідэя цацкі належыць Раісе Дзейкун, аўтару кніжак «Прыгоды Бульбаёсціка», «Сямейка бульбяная» і іншых кніг, прысвечаных бульбе. Першая партыя Бульбаёсціка ўжо радуе дзятву Гомельскага раёна, піша «Гомельская праўда».

Раіса Дзейкун родам з Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. У 1979 годзе скончыла факультэт журналістыкі БДУ. З 1973 па 2006 год жыла ў Расіі і ва Украіне, працавала начальнікам Цэнтра грамадскіх сувязяў УМУС па Чарнігаўскай вобласці. Піша вершы і прозу на беларускай, расійскай і ўкраінскай мовах. Аўтар кніг на праваахоўную тэматыку і кнігі-споведзі «Мой Чарнобыль, Або я боль людскі кранаў… рукамі…». Падпалкоўнік міліцыі ў адстаўцы.

*Хартыя'97*




Беларускі патрыёт
забіў урача з крыкам :
"Курва, памятай: па-беларуску
"белочка" гэта ваверка!"

# Гомель, "Сяльмаш", пачатак 70-х.

Працяг. Пачатак на стар. 3

На заводзе Гомельскага сельскагаспадарчага машынабудавання, больш вядомым, як “Гомсельмаш”, дырэктыву зразумелі выдатна. Але выконваць яе не спяшаліся. Тут, бляха-муха, трэба новы сіласаўборачны камбайн здаваць, а гэтыя абкамаўскія лайдакі з рознай дуротаю лезуць! Завадское кіраўніцтва хуценька памножыла паперчыну на электрографе “Эра” і скінула па інстанцыях ніжэй: маўляў, разбірайцеся са сваім ідэйна-няспелым кантынгентам самастойна. Толькі не забудзьцеся персаніфікаваць адказнасць і дакласці пра выкананне.




І вось атрымлівае такую паперу партарг механічнага цэху – звычайны рабацяга, узвышаны партыяй за перамогу ў сацыялістычным спаборніцтве. Шаргаціць дакументам, безвынікова асэнсоўвае мудрагелісты абкамаўскі жаргон. І ідзе за кансультацыяй у партбюро, да старога бальшавіка і настаўніка моладзі.

-- Тут без паўлітры і не скеміш, чаго родная партыя вымагае! -- па-свойску скардзіцца партарг. – У сэнсе – патрабуецца знайсці асобныя недахопы?

-- Палітыку партыі разумееш правільна! – ухваляе стары бальшавік. -- Ва ўсіх недахопы ёсць? Ёсць. Значыцца, павінны быць і ў нас. Але ж зусім дробненькія, каб самім за страту пільнасці па шапцы не атрымаць. І каб нескладана было выправіць і дакласці.

Партарг спакваля святлее з твару. Сядае за стол, чухае патыліцу і, нібы картачную калоду, ператасоўвае ў галаве падведамасны кантынгент.

-- Ёсць у нас адзін фрэзероўшчык, штосуботы напіваецца і сваю бабу мяцеліць, -- кладзецца на стол першая кандыдатура. – Мо возьмемся перавыхоўваць?

-- Палітыку партыі разумееш няправільна! – перапыняе настаўнік. – Па-першае, фрэзероўшчык – пралетар. А хто такі пралетар? Гегемон рэвалюцыі, рухавік гісторыі, самы перадавы клас грамадства. Па-другое, ці не палова нашых гегемонаў сваіх баб мяцеліць. І, між іншым, правільна робяць, бо з гэтымі сукамі інакш і нельга. Тут з несвядомай моладдзю працаваць трэба, валасацікамі рознымі, якія заходнія радыёбрахалкі слухаюць і песні не па-нашаму пад гітары пяюць! Ёсць у тваім цэху такія?

Партарг напружваецца і выдае:

-- Ёсць адзін. Са студэнтаў, нядаўна на практыку прыслалі. Даўгавалосік, у амерыканскіх штанах ходзіць і заходнюю музыку слухае. Маральна няўстойлівы, палітычна непісьменны. Палітыку партыі разумее няправільна.

-- А як у яго з сацыялістычным калектывізмам? – мружыцца стары бальшавік.

Партарг тут жа згадвае, як нядаўна мужыкі скралі ў інструментальшчыкаў каністру спірту і прапанавалі студэнту выпіць, а той адмовіўся.

-- Пачуццё сацыялістычнага калектывізму адсутнае, -- робіць выснову партарг. – Жыццёвая пазіцыя цалкам пасіўная.

Па хуткім часе прамаўляецца і прозвішча практыканта-даўгавалосіка, і тут да ўсіх ягоных заганаў дадаецца яшчэ адна: ён аказваецца яўрэям. У настаўніку моладзі імгненна прачынаецца былы следчы МГБ. Далонь рэфлекторна мацае сцягно ў пошуках кабуры.

-- Значыцца, міжнародныя сіяністы ўжо і да роднага “Гомсельмашу” дабраліся, каб народ разбэшчваць, -- са скрухай канстатуе адстаўны следчы. – Ды гэтага жыдзёнка-даўгавалосіка… расстраляць мала!

-- Дык цяпер жа не трыццаць сёмы год! – асцярожна нагадвае партарг.

-- А шкада! Перавыхаваць жыда на чалавека практычна немажліва. Але зрабіць з яго савецкага грамадзяніна цалкам рэальна!

Слушна, лагічна, па-партыйнаму аргументавана. Але хто будзе перавыхоўваць гэтага недачалавека?

-- Як гэта хто? – здзіўляецца ветэран. – У вас там што, камсамольскай арганізацыі няма? За што мы ўздымалі па-над маладымі галовамі будзёнаўскія шаблі? За што Паўка Карчагін праліваў кроў у бітвах з класавым ворагам? Вось хай ваш камсарг перавыхаваннем і займаецца!

Партарг уздыхае з палёгкай. Хуля яму тое перавыхаванне, у яго план і аўрал, дый увогуле, ён не нянька ў дзіцячым садку! А, галоўнае -- ёсць на каго цяпер сапхнуць працу. Партарг шчыра дзякуе ветэрану і ідзе да цэхавага камсарга.

А камсарг – ну проста жывая ілюстрацыя да брашуры “Камсамол – гэта школа жыцця”. Мужны погляд. Шурпатыя рукі. Значок “Малады гвардзеец пяцігодкі” на грудзях. Сапраўдны пралетар і гегемон, а не нейкі там гнілы інтэлігентык!

-- Слухай, тут у нас адзін несвядомы элемент ёсць, -- пазмоўніцкі інфармуе партарг, -- ну, студэнт-даўгавалосік з практыкантаў, ты яго ведаеш. Дык трэба перавыхаваць.

-- У сэнсе – падрыльнік яму начысціць? – удакладняе камсарг.

-- Пакуль не. Схадзі да яго, перагавары душэўна, прысаромь, навучы правільнаму жыццю. Потым справаздачу напішаш.

Канчаецца змена, і камсарг, будуючы ў галаве план ідэйнавыхаваўчай размовы, едзе да несвядомага элемента.

Элемент прымае нязванага госця надзіва прыязна. Бацькі, кажа, у ад’ездзе, я з сястрой жыву, дык пакуль яе няма, давай па шклянцы накацім! Камсарг прыемна здзіўлены: ты ж глядзі -- жыд, валасацік, інтэлігент, а такі шчодры… Госць нават не паспявае адказаць, як у адной руцэ ў яго з’яўляецца гранчак, а ў другой – плаўлены сырок “Арбіта” за адзінаццаць капеек. Камсарг жлукціць віно, аглядаецца і чапляецца вокам за стэлаж з магнітафоннымі бабінамі. Бярэ адну, водзіць заскарузлым пальцам па




надпісы:

-- “Бе-ат-лес”. Дык гэта і ёсць твая заходняя прапаганда?

-- Яна самая! – натхняецца практыкант-валасацік. – А хочаш, пастаўлю?

Камсорг вагаецца. З аднаго боку, бухло без музона – неяк некамфортна. З другога – а калі раптам партарг дазнаецца? Ці, яшчэ горш, прафесійны настаўнік моладзі з партбюро? Камсарг накатвае яшчэ адзін гранчак і раптам прыгадвае, што на семінары камсамольскага актыву яго навучалі: класавага ворага трэба ведаць у твар, толькі тады контрпрапаганда і становіцца эфектыўнай.

-- Добра, стаўляй, -- пераступае ён праз маральную перашкоду. – Там віно яшчэ ёсць, ці зганяць?

Валасацік запраўляе бабіну з аблушчанай лаўсанавай стужкай, шчоўкае тумблерам магнітафона “Камета-201”. І праз шоргат, трэскат і перашкоды гучыць маркотны тэнар: “Is there anybody going to listen to my story, all about the girl who came to stay?”

-- Ведаеш, пра што песня? -- сакральным шэптам пытаецца валасацік. – Як адзін чувак закахаўся ў клёвую герлу. Вось, слухай…

Камсарг не рэагуе. Слухае, адставіўшы недапіты гранчак, і адчувае, як у ягоным мозгу паволі адбываецца дысінхранізацыя паўшар’яў. Не, нешта тут не тое… Камсарг круціць галавой і, нарэшце, паспяхова адагняе гэтае д’ябльскае насланне. Тым часам валасацік падступна адкаркоўвае новую пляшку. У шклянкі ліецца “Вермут ружовы мацаваны”, магнітафон спакушае анёльскімі галасамі, буржуазная зараза салодкай атрутай

# Гомель, "Сяльмаш", пачатак 70-х.

Працяг. Пачатак на стар. 3, 4-5

нацякае ў падсвядомасць.

І тут у дзверы звоняць. Гаспадар злякана шчоўкае тумблерам, і сеанс музычнага гіпнозу абрываецца вельмі дарэчна. На дыбачках ідзе ў вітальню, глядзіць у дзвярное вочка.

-- Сястра, -- кажа з палёгкай. – Ключы, зараза, забылася…

…Праз тыдзень камсарг выпадкова сустракаецца на прахадной з партаргам цэху і настаўнікам моладзі.

-- Ну, як там твой дысідэнт? – цікавіцца партарг. – Перавыхоўваецца?

-- Цяжкі выпадак, -- уздыхае камсарг. – Усё вельмі запушчана. Нават мяне хацеў у валасацікі завербаваць. Уяўляеце -- паставіў мне запіс гэтага… Джона Ленана!

-- Ды які ён Ленан! – абураецца стары бальшавік. – Ведаеш, як яго сапраўднае прозвішча? Лейбман!

-- Але ж ты на тую прапаганду не паддаўся? – пытаецца партарг. – Перавыхоўваеш?

-- Пакуль гэтая падла “Маральны кодэкс будаўніка камунізма” напамяць не вывучыць, я ад яго не адстану! На камсамольскім білеце клянуся!

Камсарг трымае слова: перавыхаванне несвядомага валасаціка праходзіцьударнымі тэмпамі. Праз колькі дзён ён састрыгае даўжэзную грыву. Рэгулярна з’яўляецца на камсамольскіх сходах. Яго колькі разоў бачаць у гомельскім Парку культуры і адпачынку разам з камсаргам, прытым культурных дзецюкоў суправаджае нейкая юная брунэтка надзвычайнай прыгажосці. Практыка ў студэнта канчаецца поўным перавыхаваннем, і ён з выдатнай характарыстыкай, падпісанай партбюро, партаргам і камсаргам, сыходзіць з “Гомсельмашу”.

А праз колькі месяцаў камсарг нечакана кладзе на стол “Заяву па ўласным жаданні”.

Як, што, чаму, што не задавальняе?! Ды ўсё, кажа, задавальняе, толькі з’язджаю я адсюль.

-- На БАМ? – з павагай удакладняе стары бальшавік. – “За туманом и за запахом тайги»?

-- На самы край свету! – прасветлена адказвае камсарг.

Па хуткім часе пра камсорга пачынаюць паціху забываць усе, нават партарг са старым бальшавіком. А яшчэ праз колькі месяцаў у партбюро тэлефануюць з гомельскага абкаму.

-- Ну што -- прыгрэлі змяюку на грудзях?! – пяшчотным голасам садыста пытаецца слухаўка. – Выхавалі здрадніка Радзімы?

Дзе, хто, што? Якія ў нас на “Гомсельмашы” могуць быць здраднікі? Вы каго маеце на ўвазе?!

-- Таго самага, каму вы ўсе станоўчую характарыстыку далі, -- усё так жа лагодна паведамляе слухаўка. – Дарэчы: а дзе цяпер былы камсарг механічнага цэху?

Як дзе? Звольніўся. Мы за яго больш адказнасці не нясем. А, увогуле, харошы хлопец: бездакорная біяграфія, актывіст, пралетар і гегемон. Мы яго нават кандыдатам у партыю хацелі рэкамендаваць…

-- Ды ён для зонаўскага барака кандыдат! – выбухае тэлефон шалёным фугасам. – Вы ведаеце, што ён у АВІР дакументы падаў? Як вы недагледзелі? Як такое ўвогуле магло здарыцца?

А здарылася вось што. Наш камсарг да бяспамяцтва закахаўся ў сястру практыканта, юную брунэтку надзвычайнай прыгажосці. Гэта было каханне з першага погляду, прытым камсамольскі погляд упадабаў дзяўчыну акурат на кватэры ёйнага брата-валасаціка, пад пранікнёную бітлоўскую “Girl”. Быццам празрыстая плынь няўхільна размыла навакольную прастору, і птушка шчасця заўтрашняга дня панесла ўсіх у далёкае касмічнае вымярэнне, дзе расчуленага гегемона з галавой накрыла цёплая хваля ачышчэння, узвышэння і катарсісу.

Вось аказваецца, як бывае: лірычная балада Джона Ленана, пачутая пад алкагольную анастэзію, ды яшчэ з клёвай герлой, здольная працяць нават жалезабетонную камсамольскую свядомасць!

Далейшыя падзеі разгортваліся імкліва. Праз тры дні камсарг прызнаўся дзяўчыне ў каханні. Дзяўчына заплакала і прызналася ў адказ, што ёйныя бацькі-яўрэі падалі заяву на выезд з Саюза і цяпер чакаюць вынікаў у Маскве. Але ўпартага камсарга гэта не засмуціла: праз тыдзень маладыя ўсё ж падалі заяву ў ЗАГС. Брат-валасацік атрымаў ад будучага швагра суворае папярэджанне: доўгія валасы састрыгчы, на камсамольскія сходы хадзіць абавязкова, і ўвогуле, не выёжвацца, табе характарыстыка патрэбная, а не непрыемнасці. Неўзабаве пасля вяселля маладая сям’я падала дакументы на выезд, а АВІР здуру той выезд дазволіў. І літаральна праз паўгады ўся троіца транзітам праз Вену і Рым па лініі Таварыства дапамогі яўрэйская іміграцыі прыбыла ў Нью-Йорк…

Наступствамі гэтай іміграцыі на родным “Гомсельмашы” сталіся інфаркт у старога бальшавіка, вымова партаргу цэха і

# Гомель, "Сяльмаш", пачатак 70-х.

## Працяг. Пачатак на стар. 3-6

фантастычныя чуткі пра амерыканскага дзядулю-капіталіста, які нібыта адпісаў былому камсаргу ўсе свае сто мільёнаў даляраў.

У Нью-Йорку маладзёну спярша было цяжка. Не патрэбныя там, аказваецца, камсаргі, а маладыя гвардзейцы пяцігодкі – і пагатоў. Але ж хлопец хутка засвойтаўся. Вывучыў ангельскую, тым больш, што ўсе песні “Бітлз” да таго часу ведаў практычна напамяць. Не цураўся ніякай пралетарскай працы. Назбіраў на ўласны дом, купіў медальён на таксі.

І вось аднойчы былы камсарг, а цяпер малады нью-йоркскі таксіст падвозіць да гатэля “Dakota Building”, што на Семдзесят другой стрыт, нейкага валасаціка ў пацёртых джынсах і акулярах. Глядзіць у люстэрка задняга выгляду і хранее… Як, у ягонай машыне? Не можа гэтага быць!

Таксіст працірае вочы і ўдакладняе недаверліва:

-- Mister Lennon?

-- Yeah, that's really me, -- пацьвярджае Джон Ленан. – Do you need my autograph?

Былы гомсельмашавец сутаргова корпаецца ў аўтамабільным бардачку, знаходзіць магнітафонную касету з асадкай і глядзіць на пасажыра ўмольна.

-- You're from the Soviet Union, eh? – здагадваецца Ленан па характэрнаму акцэнту кіроўцы, звыкла крэмзае на касеце сваё імя і нечакана цытуе радок з бітлоўскае песні “Back in the USSR”: -- “I'm back in the USSR, you don't know how lucky you are, boy!”




Хлопец з падзякай прымае ў Джона касету з аўтографам і выдае нечакана змрочна:

-- This is for you there USSR. А для мяне – проста “савок”.

*Фрагменты кнігі Уладзіслава Ахроменкі “Музы і свінні”*

*http://homel-hist.livejournal.com/12950.html*



# Першы рэйкавы аўтобус пачне перавозіць пасажыраў у канцы красавіка

***На Гомельскім кірунку.***

Першы аднавагонны дызель-цягнік ДЦ-1 для Беларускай чыгункі прайшоў выпрабаванні.

Спецыялісты правялі выпрабаванні наконт цеплапедачы, электраапаратуры і электраабсталявання, тармазной сістэмы, пажарнай бяспекі і аховы працы. Акрамя гэтага, цягнік прайшоў праверку габарытаў і паколавае ўзважванне.

Дызель-цягнік будзе курсіраваць па маршрутах рэгіянальных ліній эканом-класа новага фармату пасажырскіх перавозак.

Плануецца, што ўжо ў канцы красавіка ён пачне перавозіць пасажыраў у Гомельскай вобласці.

Даўжыня цягніка складае 27,5 м, колькасць месцаў, прадугледжаных для сядзення, — 91. Эксплуатацыйная хуткасць руху — 120 км/г. Далёкасць ходу на адной запраўцы паліва складае 1 тыс.км. Разліковы тэрмін службы цягніка — да 40 гадоў.

Да канца 2012 года плануецца вырабіць 6 рэйкавых аўтобусаў.

Вытворчасць цягнікоў — сумесны праект «Беплкамунмаша» і польскае кампаніі PESA Bydgoszcz SA.

*БелТА*

## ГумНо СПАРТЫЎНАЕ

## Футбол:

***Наступная гульня з удзелам ФК Гомель адбудзецца 25 красавіка (серада). ФК Гомель у 1/2 Кубка Беларусі ў Наваполацку згуляе з ФК Нафтан. Пачатак гульні ў 16:00.***

4 тур. 10 красавіка. ФК Гомель - Нафтан (Наваполацк) 0:0

Чарговая хатняя гульня, якая павінна была быць выязной. У Наваполацку газон стадыёна не быў гатовы да матчу, а вось газон «Цэнтральнага» прызналі-ткі прыдатным. Але гэтай акалічнасці зялёна-белыя былі толькі ўзрадаваны, бо матч у аўторак для выезду не самы лепшы варыянт)). Віраж сабраў каля 270 зялёна-белых. Гульня адзначылася адменай гола ФК Гомель у вароты Нафтана. У наступстве за гэтую памылку суддзі матчу была вынесена вымова аб нездавальняючай рабоце і аб памылковасці гэтай адмены. Аднак лік матчу 0:0 ніхто не адмяніў. Па выніку наш ФК страціў 100% 2 ачкі, а газон «Цэнтральнага» яшчэ больш травы.

3 тур. 6 красавіка. ФК Гомель - Тарпеда (Жодзіна) 2:0

Другая хатняя гульня і зноў з прынцыповым супернікам. Пятніцкі вечар сабраў на віражы каля 270 зялёна-белых з шызой на добрым узроўні, з якаснымі пераклічка паміж стадыёнам і фан-сектарамі. Каманда зноў пацвердзіла сваю сілу і ўзяла верх над Тарпеда 2:0. У канцы сустрэчы зялёна-белы сектар асвяціўся агнямі мабільных і фотаапаратаў. Пацешыла, што тэму падхапіў і стадыён. Пасля фінальнага свістка каманда ў поўным складзе каля віражу з узаемнымі падзякамі і апладысментамі. Гасцей прыбыло каля 80. Пасля дынамаўскага фаеру на мінулай хатняй гульні ўваход на гасцявой сектар «Цэнтральнага» толькі праз татальны нагляд з прыхільнасцю, аж да распранання. Тут як у вядомай прымаўцы: лепш не будзе, а горш - заўсёды калі ласка.

*http://www.gwfront.com*

## У Гомелі затрымалі ўкраінца з «велікоднай» кантрабандай

***Пагранічнай групы сумесна з мытнікамі на прыпынку грамадскага транспарту ў Гомелі 10 красавіка затрымалі жыхара Чарнігава.***

(Памежнікі Гомельскай)

У грамадзяніна Украіны былі выяўленыя дзве сумкі, у якіх знаходзіліся тавары народнага спажывання: налепкі на велікодныя яйкі, насенне маку, лаўровы ліст, спецыі, шакаладныя цукеркі, жэле.

Дакументаў, якія пацвярджаюць легальнасць набыцця і перамяшчэння тавараў праз мяжу, у затрыманага не было. Тавар на суму больш за 10 млн рублёў канфіскаваны.

*БелаПАН*




*Гэты нумар выйшаў пры падтрымцы*




M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
"Гомельскія Навінкі красавік 2012"
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246050, г. Гомель, вул. Мазаева, 17,
рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2012"

Надрукавана на Папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.




Мы ў сацыяльных сетках:
Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com
***vkontakte.ru:*** http://vk.com/gumno2007
***facebook.com:*** http://www.facebook.com/profile.php?id=100003262396346
***Вольга Пыхава:*** http://vk.com/volha_pyhava
***Аляксей Венецыянаў:*** http://vk.com/id167202367